Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 25 (79) Нядзеля, 28-га Чэрвеня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.

## Грозны мамэнт.

Мамэнт, які перажывае ўвесь сьвет, ёсьць вельмі паважны і грозны. Надта важны ён і для беларускага народу.

Па ўсім сьвеце йдзе барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць. Борыцца, ўвесь заліты крывёй сваіх ахвяр бязлітасны, хітры, жалезны Комінтэрн з мягкацелай, нерашучай, жаднай, разрозненай, буржуазнай Эўропай.

Барацьба гэта вядзецца не ад сёньняшняга дня. І толькі ў апошнія гадзіны стала ясна адно: с Комінтэрнам разам ідзе дзікі, невядома-страшны Усход, — з Эўропай — увесь Заход. Два галоўныя цэнтры зарысоўваюцца ў гэтай барацьбе: Масква з аднаго боку, а Парыж і Лёндон — з другога. І чым далей, тым барацьба прымае ўсё больш вострыя, больш выразныя формы. Да гэтага часу Эўропа была пад дзіўным гіпнозам усходняга „факіра". Ня гледзячы на грозныя мамэнты папярэдніх рэвалюцыяў у працягу апошніх пяцёх гадоў, як рэвалюцыі ў Вэнгрыі, Нямеччыне, Эстоніі, Баўгарыі, робляныя па загаду і пры бліжэйшай дапамозе Масквы; ня гледзячы на сыстэматычную і пляновую рэвалюцыйную працу маскоўскага Комінтэрна па ўсіх кутках Эўропы і Азіі, — Эўропа, хоць мудрая і дыплёматычная, нічога гэтага ня бачыла. Ня бачыла й не разумела, што сама сядзіць на агнедышачай гарэ. Не хацела бачыць, што заўсёды ўсе ніткі рэвалюцыйнае працы абавязкова йдуць да адзінага цэнтру — Масквы.

Загіпнатызаваная Эўропа „прызнавала", „гандлявала", „дагаварывалася", „конфэравала" і „банкетавала" з сваім „факірам".

Але прышлі іншыя хвілі.

Успыхнула паўстаньне ў Індыі, ўспыхнула і загарэлася вялікім полымям грознае паўстаньне ў Марокко, перайшоўшае ў праўдзівую вайну...

Паўстаў адвеку сьпячы Кітай і стаў біць і выганяць з сваей зямлі эўропэйцаў.

Эўропа раптам прачхнулася ад гіпнозу. Але, як чалавек пасьля гіпнозу знаходіцца ў стане, яшчэ ненармальным, так і Эўропа ўбачыўшы ў першы раз адчыненымі вачыма свайго сьмяротнага ворага—кінулася шукаць ратунку.

Бальшавіцкая менская газэта „Młot" ад 6/VI піша: „У прэсе францускай з'явіліся весткі, што адбылася ў Жэневе (Швайцарыя) надта важнае паседжаньне рады „Міжнароднай Лігі па барацьбе з Комінтэрнам". Як паведамляюць з Парыжу на паседжаньні тым былі прысутнымі прадстаўнікі 30 дзяржаваў, пры чым Рада павінна была прыняць нязвычайна важныя пастановы". Але, пакуль што, гэта толькі пастановы — словы, а Масква ня сьпіць, чынна працуе!

Зусім ясна, што канфлікту ня мінуць.

Страшная па сваіх пасьледствах спатычка камуністычнага Усходу з буржуазным Заходам безумоўна адбудзецца.

І ўжо на далёкім Усходзе барацьба пачалася. З аднаго боку, ізноў у бядзе злучыўшыяся „саюзьнікі", пасылаюць аружжа і жаўнераў на абарону сваіх калёніяў і жыцьця сваіх землякоў, з другога — маскоўскія бальшавікі пасылаюць грошы, агітатараў, інструктараў, агітацыйную літэратуру і... так сама аружжа (яшчэ так недаўна атрыманае ад тых жа ангельцаў і французаў!..) марокканцам і кітайцам, каб біць эўрапэйскіх „буржуяў і эксплаататараў".

Але прыдзе мамэнт—і ён недалёкі ўжо!—калі вялая буржуазная Эўропа прачухаецца аканчальна і зачне ў сур'ёз барацьбу но ўжо не за калёніі, а за сваё істнаваньне.

І тут можа здарыцца, што наша зямля з'явіцца йзноў тым гістарычным „пляцдармам", на якім у пройшласьці ўжо не раз разрашаліся спора між Усходам і Заходам.

І калі авангардам і галоўнай сілай са старАны Усходу будзе бальшавіцкая Расея, то авангардам Заходу, будзе Польшча.

Той факт, што галоўная барацьба можа разыгрaцца на беларускіх землях, павінен зьвярнуць асаблівую ўвагу Эўропы на гэтыя землі і дванаццацімільённы народ іх насяляючы. Бальшавікі даўно на гэта сваю ўвагу зьвярнулі і... многа зрабілі. На жаль з боку заходняга нічога пазытыўнага, апрача негатыўнага ня зроблена.

Але час яшчэ ня згубляны. Яшчэ ёсьць магчымасьці спакойны беларускі народ перацягнуць на бок Заходу, бо беларускому народу зусім не патрэбна камуна, рэвалюцыйная барацьба і анархія.

Але час ня церпіць!

Сьвяты абавязак наш — беларускай мысьлячай інтэлігэнцыі перад сваім народам, у мінуты вялікай гістарычнай вагі, быць разам з народам там, дзе законнасьць і вялікія здабыткі культуры.

І мы пэўны, што Заход загадзя адумаецца... Што Эўропа кіне на барацьбу ўсю сваю шматвяковую культуру і пераможа. Беларускі народ павінен быць з Заходам! Цяжкая будзе барацьба, вялікія будуць ахвяры! Але пасля і для нас зачнецца новая гістарычная эра, а перад беларускім народам будзе ляжаць вялікая нацыянальная будучына сярод іншых эўрапэйскіх народаў Заходу.

А. П.

### АД РЭДАКЦЫІ.

*Жадаючы каб газэта нашая сталася больш цікавай і абыймаючай усе галіны сучаснага палітычнага жыцьця, рэдакцыя запрасіла да працы у ей новых супрацоўнікаў.*

*Дзеля таго, што у зьвязку з гэтым кошты выданьня значна павялічыліся, просім п. п. чытачоў пасьпяшыць з прысылкай падпісных грошай, бо йначай высылка газэты будзе спынена.*

---

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

---

## Палітычны агляд.

Да палітычных непаразуменьняў між Польшчай і Нямеччынай, якія распачаліся на грунце гарантыйнага дагавору, не прызнаваўшага польска-нямецкія граніцы, далучыліся яшчэ труднасьці эканамічныя. Між Нямеччынай і Польшчай дайшло да г. зван. таможанай вайны, рэзультаты якой бываюць ня менш страшныя, чымся звычайнай вайны. Таможаная вайна гэта ёсьць тое, што дзяржавы зачыняюць свае граніцы і рынкі для ўвозу і прадажы тавараў варожай старонкі. Можна сабе ваабразіць, якія вялізныя матэрыяльныя страты зьяўляюцца рэзультатам гэткіх адносін у цяперашніх жыцьцёвых абставінах, асабліва для гэткіх дзяржаваў, як Польшча і Нямеччына, якія маюць супольную граніцу на працягу больш за 1000 кілёмэтраў і вельмі залежны адна ад аднэй з боку эканамічнага.

Перш за ўсё, раней чымся высьняць прычыны, якія выклікалі эканамічную вайну Нямеччыны з Польшчай, трэба сказаць аб разьмерах гандлёвых абаротаў між гэтымі дзяржавамі. Вываз з Нямеччыны ў Польшчу ў 1923 г. быў каля 4,5 прац. усяго нямецкага вывазу. У 1924 г. гэта цыфра была амаль што бяз зьмены, а сёлета яна паменьшылася. Затое ўвоз з Польшчы ў Нямеччыну састаўляе каля паловы, а часам навет і больш за палову агульнага вывазу Польшчы за граніцу. У 1923 г. прывоз з Нямеччыны састаўляе 50,6 прац. агульнага прывозу ў Польшчу, а вываз з Польшчы ў Нямеччыну—43,6 прац. агульнага вывазу з Польшчы. У 1924 г. прывоз з Нямеччыны дайшоў да 34 прац., а вываз—41,7 прац. агульнага прывозу і вывазу з Польшчы. Сёлета гэтыя цыфры хаця й засталіся прыблізна гэткія самыя, але паменьшылася сума вывазу і ўвозу. Адсюль ві-

